№ 219 (1283)

Пятніца, 23 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, на ўсходзе галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ў Мінску, Гомелі — +1...+3, Магілёве — 0...+2, Віцебску — каля 0, Гродне, Брэсце — +2...+4.

У наступныя двое сутак: часам снег; 25-га ўдзень па паўднёвым усходзе мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні з пераходам на паўночна-ўсходні, 5—10 м/с, 25-га ўдзень — месцамі парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -1...-6; 25-га ўначы на поўначы да -11, удзень — 0...-5.



**ПУЛЬС**

## Літоўскія журналісты — за "Пагоню"

**Абодва прафесійных саюзы літоўскіх журналістаў — Саюз літоўскіх журналістаў і Таварыства літоўскіх журналістаў - звярнуліся з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім выказваюць свой пратэст супраць закрыцця недзяржаўнай гродзенскай газеты "Пагоня".**

У заяве Саюза літоўскіх журналістаў гаворыцца: "Свабодны друк з'яўляецца адным з гарантаў дэмакратыі. Таму закрыццё папулярнай беларускай газеты дазваляе рабіць выснову, што пэўныя структуры беларускай улады груба парушаюць прынцыпы дэмакратыі".

"Выступаючы супраць закрыцця па палітычных матывах незалежнай беларускай газеты "Пагоня", якое парушае замацаванае ў міжнародных прававых актах свабоду слова, патрабуем спыніць незаконнае ўшчамленне свабоды слова", — напісана ў заяве Таварыства літоўскіх журналістаў.

**Сяргей ШУПА.**

## У Гомелі жыллё чакаюць 20 гадоў

**"Валюнтарысцка-нестандартныя формы" дзеля прыцягнення заказчыкаў на будаўніцтва жылля заклікаў выкарыстоўваць сваіх падначаленых старшыня Гомельскага гарвыканкама Леанід Барабанаў.**

Барабанаў падкрэсліў, што намецілася тэндэнцыя да зніжэння колькасці людзей, якія хацелі б на долевай аснове ўдзельнічаць у будаўніцтве жылля.

У адным з найбуйнейшых раёнаў горада — Чыгуначным — у чарзе на атрыманне кватэры стаяць звыш 6 тысяч чалавек. Некаторыя з іх сталі на чаргу яшчэ ў канцы 1970-х гадоў. Паводле слоў супрацоўнікаў выканкама, менавіта тыя, хто даўно стаіць на чарзе, якраз і не маюць сродкаў, каб пачаць будаўніцтва ўласнага жылля.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## 93-гадовы дзед згарэў ва ўласным доме

**Падчас узнікшага ў драўляным жылым доме пажару загінуў 93-гадовы жыхар вёскі Шалухі Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.**

Найбольш рэальнай версіяй пажару лічыцца верагоднасць суіцыду. У першую чаргу, падставай для гэтага паслужылі паказанні суседзяў загінуўшага, якія сцвярджаюць, што мужчына неаднаразова пагражаў скончыць жыццё самагубствам.

Выратаваць гаспадара дома пажарным-ратавальнікам не ўдалося: да іх прыбыцця драўляная пабудова была практычна поўнасцю знішчана агнём. Устанавіць, што прымусіла пенсіянера пайсці на такія меры, хутчэй за ўсё, не ўдасца.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

# Багаценькія Бурацiны

## У швейцарскія банкі з Беларусі ідзе паток вялікіх грошай

**Ні для каго не сакрэт, што адной з самых прывабных рысаў швейцарскіх банкаў з'яўляецца ананімнасць іх кліентаў. Банкі дазваляюць замежным укладчыкам захоўваць канфідэнцыйнасць і пазбягаць уплаты падаткаў, што, натуральна, прыцягвае ў Швейцарыю самых багатых людзей свету. Як вядома, ананімнасцю швейцарскай фінансавай сістэмы карысталіся ў свой час гітлераўскія нацысты.**

На дадзены момант у швейцарскіх банках захоўваецца грошай на суму больш за 550 млрд. швейцарскіх франкаў, большая частка якіх трапляе з-за мяжы. Летась, згодна з данымі газеты "Файненшл Таймс", найбольшы прырост сродкаў прыпаў на Гвінею, Балгарыю, Бангладэш і **БЕЛАРУСЬ**.

Як сцвярджае газета, ананімныя ўклады, пакладзеныя на рахункі ў адным са швейцарскіх банкаў і пасля пераведзеныя ў замежныя банкі, не з'яўляюцца прадметам утрымання працэнта. "Капітал кладзецца на ананімныя замежныя рахункі ад імя швейцарскага банку пад адказнасць укладчыка". Будучыня ананімных укладаў на дадзены час знаходзіцца ў падвешаным стане. Еўрапейскі Саюз патрабуе ад Швейцарыі дапамогі ў барацьбе з няўплатай падаткаў шляхам прадастаўлення інфармацыі аб кліентах.

Дарэчы, на думку аглядальніка "Файненшл Таймс", "скачок у паступленні буйных укладаў з краіны часта сведчыць пра рост карупцыі". Адным з такіх прыкладаў можа служыць павелічэнне наяўнага фінансавага патоку з Украіны і Казахстана ў канцы 90-х, калі ў гэтых дзяржавах разгортвалася антыкарупцыйная кампанія.

Мабыць, і рэзкае павышэнне ў апошнія гады ўкладаў невядомых беларускіх "багаценькіх Бурацінаў" у Швейцарыі звязана з нябачнай антыкарупцыйнай кампаніяй, якая нібы цягнецца ў Беларусі з 1994 года...

**Мікола БУСЕЛ.**




**СКАНДАЛЫ**

## Гончарик больше не лидер?!



6 декабря состоится пленум Федерации профсоюзов Белорусской. Весьма вероятно, что на нем будет поднят вопрос о пребывании в должности председателя ФПБ Владимира Гончарика, который последнее время, как говорят его недоброжелатели, занимался не столько профсоюзами, сколько политикой.

Вот и в настоящее время он и руководитель информационно-аналитического центра Федерации Валентина Полевикова совершают турне по западным странам, где встречаются с политическими и государственными деятелями.

То ли в шутку, то ли всерьез сейчас говорят о том, что если профсоюзники сами не разберутся со своим вождем, с ним разберется Лукашенко. Уже будто бы подготовлен проект указа, согласно которому Владимир Гончарик, если его не освободит от занимаемой должности пленум, будет смещен по воле "Красного дома". На его место будет назначен фаворит этого дома Витко, который является первым заместителем председателя Федерации.

**Марфа СТРИГУН.**

## Атака на профсоюзы

Утром в понедельник председатель ячейки Свободного профсоюза Минского тракторного завода Вячеслав Козел увидел на дверях профкома амбарный замок. Оперативное "расследование" показало, что сию "столярную работу" осуществил Виктор Лобыш — зам. директора по хозяйственной части. Штатный плотник участвовать в противоправной оккупации профсоюзной территории отказался.

Директорскому замку рабочие скрутили голову и заняли круговую оборону. Отражено уже несколько попыток насильственного выселения со стороны директорской "гвардии" (работников заводской охраны).

Председатель профкома обратился за помощью в прокуратуру. Однако надзорный орган за соблюдением в государстве законности пока молчит.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

## Новый свидетель

В редакцию "Народной воли" поступило письмо из белорусской колонии от осужденного к лишению свободы. Адресат, по его словам, готов представить суду документальные доказательства об обстоятельствах, причинах, основаниях похищения Д.Завадского и сообщить о месте его нахождения.

Геннадий Владимирович (так зовут этого зека. — **В.Щ.**) утверждает, что передал Дмитрию Завадскому документы о коррупции и взяточничестве в прокуратуре и судах (называются конкретные область и район. — **В.Щ.**), а также об их покровителях в столице. Подчеркнуто, что Дмитрий Завадский согласился предать данные сведения гласности.

Более того, адресат сообщает, что трижды, в течение 2000—2001 годов, его допрашивали в качестве свидетеля по делу Завадского.

Геннадий Владимирович просил передать его письмо жене и адвокату похищенного телеоператора ОРТ. Редакция данное поручение адресата исполнила.

Но вот допросят ли его в качестве свидетеля? Честно говоря, редакция сомневается, хотя, как известно, со свидетелями на данном процессе, мягко говоря, напряженка. Судебное разбирательство длится уже месяц, проведено 15 заседаний суда, и, по мнению журналистов, свидетельских показаний, уличающих группу Игнатовича в совершении преступлений, пока не прозвучало.

**Валерий ЩУКИН.**

# Заметает зима, заметает...

**Вчера в Беларуси выпало много снега. Мело всю ночь и утро. Среднесуточная норма осадков превышала возможные показатели. К полудню снег усилился, но синоптики предупреждали, что к вечеру может пойти дождь.**

"Мы всегда готовы к любым погодным катаклизмам, — говорят в столичном управлении "Ремавтодор", — работники управления дежурят круглосуточно. И несмотря на то, что синоптики не предсказывали этой ночью осадков, мы сумели вовремя вывести в город необходимое количество техники. Первые уборочные машины работали уже в три часа ночи. Следующая партия техники выехала в половине шестого утра, затем — в 8.00".

Городские службы со снежными заносами справлялись сами. К помощи сотрудников МЧС и внутренних войск, как это часто бывает, не прибегали. Днем колонны уборочной техники сопровождали машины ГАИ.

Несмотря на все старания дорожных служб, пробок в городе было немало. Не только ранним утром, когда столичные жители торопились на работу, но и ближе к полудню движение машин было затруднено в районе улицы Московской, на некоторых участках Партизанского проспекта и проспекта Скорины. Пожалуй, только на проспекте Машерова транспорт не буксовал ни днем, ни утром. Как говорят в "Ремавтодоре", президентскую дорогу — участок от резиденции президента в Дроздах и до Администрации — всегда чистят одинаково тщательно. Независимо от того, какая на улице погода. На этом участке "особой важности" в любую пору года работает большое количество дорожной техники.

За прошедшую ночь в Минске было зафиксировано 4 дорожно-транспортных происшествия. Снег здесь не при чем, виной всему — пьяные водители. Утром количество аварий увеличилось из-за скользкой дороги. Но серьезных ДТП, к счастью, не произошло.

Синоптики говорят, что в ближайшие дни погода вряд ли изменится. В прогнозах Белгидромета на ближайшие сутки — снег, метель и гололед.

**Мария ЭЙСМОНТ.**
**Фото IREX/ProMedia.**



**ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД**

# Кадровая кувырколлегия

**Вячеслав ОРГИШ,**
**доктор философских наук**

На протяжении осени (со времени окончания президентской гонки) глава белорусского государства лихорадочно тасует кадровую колоду. Вот и на прошлой неделе "высочайшим" указом были назначены очередные новые начальники, уполномоченные, замы. Предпринимаемые кадровые рокировки трудно объяснить, если не брать во внимание многочисленные проблемы внутренней и внешней политики, в которые белорусская автократия погрузила страну еще задолго до президентской кампании.

Вырвать победу у противника, опираясь на административно-бюрократическую мощь государства, еще не значит удержать ее. Виктория-штука капризная и, главное, не терпящая очковтирательства.

Сразу после ее "элегантного и красивого" завоевания 9 сентября стало ясно: можно сколько угодно врать о семидесятипятипроцентном триумфе на президентских выборах, но международную общественность провести не удастся. Международная миссия по ограниченному наблюдению за выборами в своем заключении констатировала, что выборы прошли с грубыми процедурными нарушениями и многочисленными подтасовками в пользу шкловского "триумфатора".

Между тем непрерывное обострение финансово-экономического кризиса в стране уже давно вынуждает белорусский режим добиваться прорыва экономической и дипломатической блокады Беларуси, которую западные страны предприняли в ответ на истребительную войну А. Лукашенко против белорусской демократии. Очевидно, что решение наиболее насущных проблем хозяйственной жизни невозможно без замирения и сотрудничества с Западом, без прихода в страну западного капитала. Первым шагом в этом направлении могло бы стать признание западной дипломатией прошедших выборов главы белорусского государства легитимными.

Диктуемый временем, но совершенно ненавистный А. Лукашенко императив так называемой "вестернизации" белорусской внешней политики сделался просто неотвратимым после американской трагедии 11 сентября. Владимир Путин, воспользовавшись обстоятельствами, связанными с борьбой против международного терроризма, взял решительный курс на сближение с Западом. Интеграция России в европейские структуры перешла из гипотетической области в плоскость поиска практических решений. Политические круги всерьез рассматривают варианты приобщения РФ к договору НАТО.

В сложившейся ситуации белорусский режим превратился в реликт старого политического мышления, в реальное препятствие для развития новых геополитических тенденций в центре Европы. Ставка хозяина "Красного дома" на противостояние России и НАТО не только невыгодна российской стороне, но объективно способна нанести вред путинской политике вестернизации российского социально-политического контекста. Путинская Россия не нуждается в Беларуси как "железном занавесе" на западном направлении. Кремль хотел бы видеть в своем "ближайшем" союзнике партнера в его поисках европейской идентичности.

Короче говоря, жизнь потребовала от А.Лукашенко наступить на горло собственной песне. Ему, семь лет строившему систему личной власти в традициях азиатской деспотии и подбивавшему к аналогичному политическому курсу "старшего" брата, теперь надо выворачиваться наизнанку, заниматься мимикрией, корчить из себя лояльного западной политической культуре государственного деятеля.

Сразу после сентябрьских выборов перед белорусским автократом встала острейшая задача хотя бы косметически облагородить физиономию установленного им режима единоличного правления. Как это сделать? Взаправду начать демократические реформы, значит взять курс на расшатывание устоев единоличного правления, ибо демократизация ведет к образованию независимых от "царской" воли субъектов поведения как в хозяйственной, так и политической сфере.

А. Лукашенко на политическое самоубийство пойти не мог. Он выбрал путь декоративного обновления государственно-чиновничьего фасада, пытаясь таким образом ввести в заблуждение общественное мнение страны, западную дипломатию. Именно поэтому с началом осени, совпавшим с началом второго (или третьего?) срока президентского правления А. Лукашенко, мы стали свидетелями активизации его кадровой политики. Вместо одиозных фигур, таких, например, как В. Заметалин, конструировавших и лоббировавших изоляционистскую политику Беларуси, А. Лукашенко решил выдвинуть на передний план несколько персонажей, имеющих репутацию чиновников, более умеренных и гибких.

Так, во главе президентской администрации появился Урал Латыпов, который до того успел поруководить МИДом и, как говорят наблюдатели, в роли главного мидовца сумел понравиться иностранным дипломатам. Чтобы лишний раз не будить "убойных" ассоциаций, из президентской администрации убрали генерала Юрия Сивакова, на котором лежит густая тень подозрения в причастности к исчезновению известных политических противников режима.

Однако какие бы кадровые, говоря языком писателя Лескова, кувырколлегии А.Лукашенко не устраивал, характер его правления от этого не меняется. Сущность новейшей кадровой политики хозяина "Красного дома" сводится к решению трех задач. Во-первых, не затрагивая основ системы авторитарной власти, создать некоторые предпосылки для выхода белорусского режима из международной изоляции. Во-вторых, с помощью кадровых перестановок попытаться добиться хоть каких-то подвижек в решении накопившихся проблем. В-третьих, путем кадровой ротации укрепить вертикаль власти на тот случай, если придется занимать круговую оборону, если Кремль, вовлеченный в орбиту западного влияния, вплотную займется компрометирующим его "вождем всех славян".

Именно в таком ключе следует понимать и кадровые назначения, произведенные А. Лукашенко на прошлой неделе. Ничего существенно нового и обнадеживающего в ситуацию политического и экономического тупика, в котором страна оказалась по милости нынешней власти, они не внесут.

Надо менять не функционеров от власти, а саму ее систему, которая предписывает неэффективные функции чиновникам. Тогда можно рассчитывать, что от кадровых подвижек будет прок. То же, что судорожно предпринимает на кадровом "фронте" А. Лукашенко, свидетельствует о полном кризисе его политической линии, его неспособности найти адекватные ответы на вызовы европейского демократического развития.

Сегодня, спустя полтора месяца после сентябрьской "триумфальной" победы хозяина "Красного дома", уже абсолютно очевидно: для ее удержания одних кадровых перемещений совершенно недостаточно. А на большее он вряд ли способен.

# Нікіцій! Можа, Вы паможаце?

## Адкрыты ліст Нікіцію Тутэйшаму, рабочаму сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы



Шаноўны спадар Нікіцій! Разумею, што моцна рызыкую, звяртаючыся са сваёй просьбай да Вас, бо можаце падумаць, што я раблю гэта ў насмешку, дзеля пацехі, і дадзіце мне адпаведнага кшталту адказ. Дык загадзя прашу прабачэння і запэўніваю, што ніякай насмешкі з майго боку няма, клопат мой — вельмі-вельмі сур'ёзны. Шчыра кажучы, мне зусім не да смеху: здарылася такое, што ўсякія жарты-смешыкі набок! Выслухайце ж мяне, калі ласка, і дапамажыце, усе надзеі засталіся на Вас, ніхто іншы, як бачу, дапамагчы не можа ці не хоча.

Сутнасць справы, спадар Нікіцій, вось у чым. Тыдні тры таму я купіў білет у тэатр, дзе Вы працуеце, на спектакль па п'есе Янкі Купалы "Тутэйшыя". Колькі дзён жыў у прадчуванні радаснай сустрэчы з вялікім паэтам і драматургам, з яго геніяльнай, несмяротнай трагікамедыяй. І вось прыйшоў у тэатр. А мне і кажуць: "Тутэйшых" не будзе, знялі з рэпертуару". "Чаму?" — пытаю. — "Не ведаем. Пытайце ў дырэктара ці ў галоўнага рэжысёра, яны ведаюць, бо без іх ніхто зрабіць у рэпертуары замену не можа". Ні дырэктара, ні галоўнага я не знайшоў, каб высветліць, што ж здарылася, чаму раптам зняты "Тутэйшыя", і з трывожнай заклапочанасцю вярнуўся дадому. Рашыў пачакаць трохі: здарэнне такое незвычайнае, што, напэўна, заўтра ж прычына высніцца. Бо гэта ж КУПАЛА! Творца, які быў і ёсць духоўным правадыром нацыі. Тут ужо сапраўды ніякіх жартаў і ніякіх таямніц быць не можа. З імем Купалы абыходзіцца непаважліва ніхто не асмеліцца. Гэта некалі — у 1926-м, у 1930-м... А сёння!.. Ну не! Тым больш напярэдадні юбілею паэта. Ужо вунь дзяржаўную юбілейную камісію стварылі. Дарэчы, у той жа самы дзень, як з рэпертуару выкінулі "Тутэйшых".

Так у чаканні адказу на ўзніклае пытанне думаў я дзень, другі, трэці... Чакаю, думаю, — а адказу ніхто не дае. Пайшлі чуткі, што прыйшлі ў нягоднасць дэкарацыі да спектакля, патрабуюць абнаўлення ці рамонту, і таму... Ну, што ж, можа і праўда. Але ў такім разе ўсё адно застаюцца пытанні. Па-першае, а хіба за месяц раней не ведалі пра неабходнасць абнавіць дэкарацыі? Па-другое, хай кіраўнікі тэатра так і скажуць адкрыта: не хвалюйцеся, паважаныя гледачы, прыхільнікі і сябры нашага тэатра, трохі абновім дэкарацыі, рэквізіты і праз тыдзень-другі вернем "Тутэйшых" на сцэну.

Чакаю чацвёрты дзень, пяты, шосты — ніхто пэўнага адказу не дае, сітуацыя не праясняецца. Нарэшце на першай паласе "Народнай волі" (№217) бачу дзве публікацыі пра лёс "Тутэйшых". Ну, думаю, пакутлівае чаканне скончылася. Зараз усё і высветлім. У пошуках адказу на пытанне журналісты звярнуліся да вельмі аўтарытэтных і паважаных людзей — кінуліся ў вочы іх прозвішчы. Чытаю і даведваюся: "На жаль, мы не маглі датэлефанавацца да міністра культуры Беларусі Леаніда Гулякі. За паўтара дня ў міністра культуры не знайшлося нават трох хвілін на размову з журналістамі "Народнай волі". А дырэктар тэатра Г.Б.Давыдзька "ад любых каментарыяў для "Народнай волі" адмаўляецца". Вось так, значыць. Самыя дасведчаныя — ні гу-гу! Ну, а што кажуць мае сябры-пісьменнікі — кіраўнікі творчых саюзаў? В.М.Іпатава, старшыня Саюза пісьменнікаў: "Маё стаўленне да забароны "Тутэйшых", канешне, рэзка адмоўнае". Але... "Я хачу вам нагадаць, што Саюз пісьменнікаў — грамадская арганізацыя. Палітычных заяў мы ніякіх рабіць не будзем". Ясна. Хоць і не зусім. А калі акажацца, што п'есу забаранілі па тых жа прычынах, што і ў 1926 годзе? Значыць, змагацца за Купалу не будзем? Нават за Купалу? Агульнага сходу пісьменнікаў, каб выказаць пратэст супраць цемрашальства і дзікунства, — не зберам? А.А.Дудараў, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў: "Не ведаю дакладна прычын таго, чаму "Тутэйшых" забаранілі паказваць. Я не бачу тут ніякіх палітычных прычын. Не тыя зараз часы". Ну ясна. Хоць таксама не зусім. Не зразумець: дык забаранілі ці знялі па тэхнічных прычынах? І нібы згодзен, што забаранілі, і нібы не верыць у гэта, бо няма падстаў для забароны. Ды і часы не тыя. Ну, а калі ўсё-такі забаранілі? Дык, па-першае, хто? Па-другое, чаму? Па-трэцяе, і што ж будзе? Купалаўскі тэатр будзе без самай геніяльнай п'есы Купалы?..

І што ж гэта, як той казаў, выходзя? Ніхто з тых, хто ведае дакладна, нічога не кажа; ніхто з тых, хто павінен ведаць дакладна, — не ведае. Вось і прашу Вас, спадар Нікіцій, дапамажыце! Як рабочы сцэны Вы, канешне ж, ведаеце, у якім стане дэкарацыі да "Тутэйшых" і ці патрабуюць яны неадкладнага абнаўлення. Калі сапраўды патрабуюць — значыць гэта і ёсць прычына. Калі ж з дэкарацыямі ўсё ў парадку, чуткі аб іх няспраўнасці — хлусня, значыць знялі спектакль па іншых прычынах. А па якіх? Што пра гэта думаеце Вы асабіста? Ці ў Вас сваёй думкі няма?

**Чакаю Вашага слова.**
**Загадзя ўдзячны Вам**
**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**P.S.** *Дарэчы, чаму Вы перайначылі сваё імя Мікіта на Нікіцій? А прозвішча дык і зусім памянялі. Навошта? Чым жа было кепска Мікіта Зносак! Гучыць! Асаблівa прозвішча: Зносак! Зно-сак! Ёмка, прадметна, выразна, з іншым не зблытаеш. Тым больш што Зносак — адно з самых тыповых і самых распаўсюджаных у Беларусі прозвішчаў. Іх так многа, што іншы раз ажно міжволі ўсклікнеш: а божа! Адны Зноскі кругом! Куды ні глянь — Зноскі!..*

ПУЛЬС

## Дзве Олі Пянко



У іх бацькоў, якія даўно сябруюць, аднолькавыя прозвішчы — Пянко. Калі ў сем'ях нарадзіліся дзяўчынкі, бацькі вырашылі адной і другой даць імя Оля. Дзве сяброўкі-аднакласніцы вучацца ў Ружанскай школе, сядзяць за адной партай.

**На здымку:** *Вольга Аляксандраўна (злева) і Вольга Уладзіміраўна.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## У краіне 100.000 мабільнікаў

**На прэс-канферэнцыі ў Мінску першы аператар мабільнай сувязі стандарта GSM кампанія СП ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" (гандлёвая марка VELCOM) афіцыйна аб'явіла аб тым, што колькасць абанентаў яе сеткі перавысіла 100 тысяч.**

Як заявіў генеральны дырэктар СП ТАА "МЦС" Мікалай Юшкевіч, "гэтая лічба ў першую чаргу сведчыць аб тым, што мабільны тэлефон ужо не прадмет раскошы, а практычны і зручны сродак зносін для больш чым 1 працэнта насельніцтва нашай краіны. Зламаны стэрэатып аб мабільнай сувязі як паслузе, прызначанай выключна для бізнесменаў і багатых людзей. Мабільная сувязь патрэбная і актуальная для сярэдняга класа Беларусі".

Ацэньваючы сітуацыю з прыходам другога аператара GSM і далейшыя перспектывы развіцця сотавай сувязі ў Беларусі, кіраўнікі СП "МЦС" гавораць, што ёмістасць гэтага сегмента беларускага рынку даволі вялікая і можа дасягаць у бліжэйшыя гады 500 і больш тысяч абанентаў. На сённяшні дзень, за два з паловай года з часу ўтварэння кампаніі, інвестыцыі VELCOM ацэньваюцца ў суму каля 75 мільёнаў долараў ЗША. Чакаецца, што ў наступным годзе кампанія інвесціруе ў сваёй галіне каля 20 мільёнаў долараў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Беларускі тэатр з юбілеем першым павіншаваў ... Уладзімір Пуцін

**75 год таму ў Віцебску адкрыўся Другі беларускі драматычны тэатр, ці БДТ-2. 21 лістапада 1926 года ён упершыню ўзняў заслону, і на сцэне з'явіліся выпускнікі беларускай драматычнай студыі, якія атрымалі тэатральную адукацыю ў Маскве і ў поўным складзе прыехалі працаваць у Віцебск.**

Зрэшты, гісторыя гэтага тэатра, якому ў 44-м годзе было прысвоена імя Якуба Коласа, а ў 77-м — званне "Акадэмічны", ужо добра вывучана беларускімі тэатразнаўцамі. А што да звычайных гледачоў, то ў Віцебску коласаўскі тэатр ёсць і заўсёды быў найбуйнейшым асяродкам беларускай мовы і культуры. Бо беларуская мова гучыць тут не толькі на сцэне, але з'яўляецца таксама мовай паўсядзённага жыцця і зносін у асяродку коласаўцаў.

Коласаўцы атрымліваюць віншаванні. Асабліва іх уразіла тое, што першым даслаў віншавальную тэлеграму расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін.

**Браніслава СТАНКЕВІЧ.**
Віцебск.

## Нашы прыцэлы на Балканах

**Шведскія "блакітныя каскі" са складу міжнароднага міратворчага кантынгенту ў былой Югаславіі атрымаюць на ўзбраенне аптычныя прыцэлы беларускай вытворчасці.**

Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў дырэктар навукова-вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "ЛЭМТ", доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Аляксей Шкадарэвіч.

Навукова-вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Лазеры ў экалогіі, медыцыне, тэхналогіі" ("ЛЭМТ") утворана ў рамках Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання ("БелОМА") 9 гадоў таму. Ідэалогіяй стварэння новага прадпрыемства, як сказаў прафесар Шкадарэвіч, "было імкненне прывесці аплату працы ў адпаведнасць з вынікамі гэтай працы". Для гэтага ўтворана высокатэхналагічнае, навукаёмістае прадпрыемства замкнутага тыпу, максімальна незалежнае ад прадукцыі сумежнікаў і пастаўшчыкоў.

Сёння "ЛЭМТ" аб'ядноўвае тры канструктарскіх бюро і дзве вытворчасці: вопытную і серыйную. На прадпрыемстве працуюць каля 250 чалавек, сярэдняя заработная плата якіх вагаецца ад 230 тысяч (кваліфікаваныя рабочыя) да 270 тысяч (канструктары) рублёў. "ЛЭМТ" выпускае аптычныя, оптыка-электронныя, лазерныя прыборы і апараты як грамадзянскага, так і ваеннага прызначэння.

**Юрый КАСЬЯНАЎ.**

БЕСПРЕДЕЛ

# ПОЧЕМУ ЗАКРЫЛИ "ПАГОНЮ"?

## Хроника репрессий против независимой газеты

ПАГОНЯ

*"... может быть, мы ослабили контроль за средствами массовой информации и позволяем им творить тот беспредел, который сейчас происходит. Но мы должны все это перетерпеть. Если мы сейчас прикроем кого-то... Они на это нарываются. Мы не должны этого делать. Мы призовем их к ответу после выборов".*

*(А.Лукашенко. Из выступления на встрече с избирателями во Дворце Республики 4 сентября 2001 г.)*

### В тисках у власти

— 10.02.1999 г. — предупреждение Госкомитета по печати за опубликование в газете "Пагоня" известного документа Центризбиркома под руководством В.И.Гончара о проведении в мае 1999 года выборов Президента Республики Беларусь;

— 14.02.2000 г. — предупреждение учредителю газеты культурно-просветительного фонда "Бацькаўшчына" за распространение незарегистрированного приложения "ТВ-программы";

— 05.05.2000 г. — предупреждение за публикацию в газете "Пагоня" информации от имени незарегистрированного в органах юстиции Молодежного антифашистского центра;

— 06.2000 г. — предупреждение за распространение информации от имени Гродненского молодого фронта, не прошедшего в установленном порядке государственной регистрации;

— 17.11. 2000 г. — предупреждение за опубликование заявления незарегистрированного в органах юстиции Координационного комитета "Гродненская инициатива".

27 августа 2001 г. прокуратура Гродненской области обратилась с иском в областной хозяйственный суд о прекращении деятельности газеты "Пагоня" и о ликвидации ее редакции как юридического лица.

Обращает на себя внимание то обстоятельство, что иск о закрытии газеты прокуратура мотивировала *"необходимостью защиты прав граждан на своевременное, оперативное получение через средства массовой информации достоверных сведений о деятельности государственных органов, общественных объединений, о политической, экономической и международной жизни"*. Сам же иск был подан *"в интересах государства Республики Беларусь в лице Госкомитета Республики Беларусь по печати"*.

Получается, что закрыть "плохую" для власти газету — это очень полезное для общества и государства дело. Если бы к исковому заявлению прокуратура добавила несколько писем возмущенных читателей, то можно было бы сослаться на волю трудящихся и устроить публичное судилище с последующим сожжением арестованных тиражей издания. Это вернуло бы нас в период "партийной инквизиции" времен второго рейха или большевистского террора, когда неподконтрольные власти печатные издания подлежали закрытию.

### Достала!

Пока иск гродненских прокуроров прокручивался через маховик судебной бюрократии, в г.Гродно произошло событие, которое резко активизировало деятельность местной "вертикали" в отношении "Пагон?". В №36 за 4 сентября 2001 г. редакция разместила ряд материалов, которые призывали избирателей не голосовать на выборах за кандидата А.Лукашенко и в доходчивой форме, в том числе сатирической, поясняли, почему он не должен занимать должность главы государства. Каким-то образом о крамольных материалах стало известно властям. В типографию прибыла группа прокурорских работников. Ознакомившись с текстом номера газеты, они приняли решение об изъятии напечатанных газет в количестве 10 751 экземпляров и запретили печатать остальной тираж (полный тираж газеты должен был составить 88 000 экз.).

Вот тут и началось... По газете ударили со всех "стволов": уже на следующий день прокуратура возбудила уголовное дело по факту клеветы на президента (ч.1 ст. 367 УК); в редакции была проведена выемка четырех системных блоков от компьютеров, изъяты бухгалтерские документы за 2001 год. Позднее был арестован счет редакции с жалкими остатками средств, а также запасы газетной бумаги, которые оставались в типографии. В редакции прошло два обыска с осмотром и изъятием всех подозрительных материалов, в том числе контрольные оттиски следующего номера газеты и письма читателя под названием "Графіці на банкнотах". Все сотрудники редакции вызывались на допросы, некоторые даже по несколько раз.

Несмотря на подрыв "материальной базы" и откровенное запугивание членов редакционного коллектива, газета все-таки продолжала выходить, вызывая еще большее недовольство властей. Тогда было решено ускорить процесс закрытия газеты. К делу подключился Высший Хозяйственный суд: он принял иск прокуратуры к своему производству и назначил слушание дела на 27 сентября.

Однако еще до суда выяснилось, что прокуратура с предъявлением иска поторопилась. По закону для закрытия газеты необходимо получить не менее двух предупреждений в течение года. А "Пагоня" за последний год имела только одно предупреждение: от 17 ноября 2000 г. К тому же не захотел участвовать в сомнительном деле Госкомитет по печати. Он направил в адрес суда официальное письмо с отказом от иска, который ему пыталась навязать прокуратура Гродненской области. При таких обстоятельствах казалось, что дело не имеет судебной перспективы и его надо прекращать. Но прокуратура не хотела признавать свое поражение.

### Новое наступление

За неделю до судебного разбирательства (21 сентября) та же прокуратура вынесла газете "Пагоня" предупреждение за опубликование в №36 статьи Павла Можейко "Ідзем на выбары", письма читателя Сергея Кракасевича "Ён — не Лукашэнка" и стихотворения неустановленного автора "Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчать!". Прокуратуру не смутило то обстоятельство, что тираж номера был целиком изъят и что по этим же материалам проводится уголовное расследование. Разве допустимо предупреждать за действия, по которым уже проводится расследование? И можно ли просто так, голословно, без доказывания в установленном законом порядке утверждать, что газета кого-то оклеветала?

Редакция газеты предприняла меры для признания этого предупреждения ничтожным и подала соответствующее исковое заявление в хозяйственный суд Гродненской области.

### Судебный процесс

Первое судебное заседание (27 сентября) было отложено, не успев начаться. Причиной послужило то, что прокуратура не предоставила другой стороне всех необходимых документов.

На втором заседании (5 октября) представители редакции заявили ходатайство о прекращении производства по делу в связи с отказом Госкомитета по печати от иска. Однако судья отказался его удовлетворить, мотивировав свое решение тем, что "отказ истца от иска, предъявленного прокурором в интересах государства, не влечет прекращения по делу".

Вот какой аргумент! Если иск предъявлен от имени государства, то он не подлежит прекращению. Совсем как самые мрачные годы советской власти: именем партии, именем государства признать врагом народа и уничтожить.

К рассмотрению дела судья так и не приступил: ему понадобилось ознакомиться с доказательствами об изъятии тиража газеты. И снова отложение разбирательства... до 23 октября.

К этому времени хозяйственный суд Гродненской области принял к рассмотрению иск редакции о признании предупреждения прокуратуры недействительным и назначил дело на 8 ноября 2001 года. Поэтому на очередном заседании было принято решение о приостановлении производства по основному делу до вынесения решения хозяйственным судом Гродненской области.

В конце октября мы получили определение суда за подписью судьи В. Жандарова об объединении в одно производство иска редакции о признании предупреждения прокуратуры недействительным и иска прокуратуры о закрытии газеты. Рассмотрение "объединенного" дела было назначено на 9 ноября.

Вот в этот день, собственно, и началось судебное разбирательство. С самого начала судья отказал во всех ходатайствах редакции. А мы требовали раздельного рассмотрения исков, поскольку они разнородные по своей сути; просили назначить филологическую экспертизу, чтобы определить наличие или отсутствие в материалах, ставших основанием для вынесения предупреждения, оскорбительных выражений в адрес конкретной личности.

### Конец игры

Когда судья В. Жандаров без объяснения мотивов отказал в наших ходатайствах, стало понятно, что до этого с нами просто играли, откладывая под разными предлогами судебные заседания. Прокуратуре и суду надо было подтянуть по времени к основному иску второе предупреждение, чтобы иметь формальное основание для закрытия газеты. И они, в конце концов, добились своего — второе предупреждение стало предметом рассмотрения в том же суде. Осталось только признать его законным несмотря ни на какие доводы представителей редакции.

Мы действительно приложили много усилий, чтобы убедить суд в безосновательности прокурорского предупреждения, которое вопреки закону и логике было "втянуто" в судебный процесс. В частности, мы говорили о том, что не было факта распространения печатной продукции в связи с изъятием тиража, что не доказан факт клеветы в отношении А.Лукашенко, что прокурорское предупреждение было вынесено после начала судебного разбирательства, что его нельзя учитывать при вынесении решения по иску о закрытии газеты и т.д., и т. п.

В этот день суд не стал выносить решение. Итоговое заседание состоялось 12 ноября. Ничего не предвещало страшного исхода. Стороны выступили с заключительными речами. Мы опять повторили свои аргументы и требования. Представитель Министерства информации Л. И. Богдан подтвердила отказ министерства от иска и то, что для закрытия газеты она не усматривает оснований .

Судья удалился на совещание. И вот он зачитывает резолютивную часть решения: 1) в иске редакции газеты "Пагоня" о признании прокурорского предупреждения отказать; 2) деятельность газеты "Пагоня" прекратить, а редакцию ликвидировать; 3) судебные расходы в сумме больше 150 тыс. белорусских рублей взыскать с редакции газеты. Решение суда вступило в силу с момента его оглашения.

Такого цинизма от суда никто не ожидал. Подивились не только журналисты, пришедшие в зал судебного заседания, но и его непосредственные участники. Не могла скрыть своего удивления и представитель Министерства информации. Судья же, сделав свое дело, молча удалился.

***

Что можно сказать после процесса? Лично у меня сложилось убеждение, что прокуратура вкупе с судом расправилась с неугодной властям независимой газетой. Сценарий был применен такой же, что и в отношении газеты "Свабода" в ноябре 1997 года. Сначала ее "обложили" со всех сторон и применяли все дозволенные средства правового воздействия: предупреждения со стороны контролирующих органов, проверки финансовой деятельности, возбуждение уголовных дел по фактам публикаций. И в том случае "смертный приговор" газете вынес Высший Хозяйственный суд (судья М. Клименкова).

По сути дела прокуратура, а следом за ней Высший Хозяйственный суд выполнили политический заказ и уничтожили общественную трибуну свободного слова, лишили людей права высказывать свое мнение о нашей действительности.

Уверен, что в истории белорусской журналистики и юстиции случаи закрытия независимых газет будут изучаться как черные страницы. И на этих страницах будут записаны фамилии заказчиков и исполнителей этих позорных дел. А газета "Пагоня" еще возродится, как и исторический герб "Пагоня".

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук, профессор, руководитель Центра правовой защиты СМИ при ОО "Белорусская ассоциация журналистов".**

КАНФЛІКТ

# Улада помсціць?

**Старшыня Шклоўскай раённай арганізацыі Беларускага народнага фронту Рыгор Костусеў, які шэсць год працаваў дырэктарам раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі, стаў беспрацоўным. Як сцвярджае ён сам, улады прымусілі яго напісаць заяву па асабістым жаданні. А ўсё так добра пачыналася.**

Першыя папрокі прадстаўнікоў улады ў бок дырэктара жыллёва-камунальнай гаспадаркі Шклоўскага раёна прагучалі ў 1995 годзе, калі яго абралі старшынёй мясцовай арганізацыі Фронту. Потым, праз год, ён увайшоў у склад Сойму БНФ. Усе гэтыя гады ён актыўна ўдзельнічаў у палітычных акцыях, гаварыў людзям праўду, выступаў з розных трыбун. Калі пачаліся прэзідэнцкія выбары, узначаліў раённую ініцыятыўную групу Сямёна Домаша.

Яго актыўная палітычная дзейнасць была як бяльмо на воку для мясцовай вертыкалі. Як жа, Шклоўшчына — радзіма Лукашэнкі, а тут такія выступленні.

Зрэшты, прыдрацца не было да чаго. Дырэктар са сваёй працай спраўляўся, пацвярджаў граматамі. У мінулым годзе ў спаборніцтве па эксплуатацыі жыллёвага фонду жыллёва-камунальная гаспадарка Шклоўскага раёна заняла першае месца ў Магілёўскай вобласці, другое — у краіне. Спробы звольніць яго з працы правальваліся. Спадар Костусеў катэгарычна адмаўляўся пісаць заяву аб звальненні з працы па асабістым жаданні.

Тады маючыя ўладу людзі пайшлі па другім сцэнарыі. Пры аблвыканкаме мірна існавала дробная камунальная служба, так званае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне. Уладным рашэннем яго перадалі ў раённую ўласнасць. А потым вырашылі аб'яднаць з мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркай, той самай, якой кіруе Костусеў. У выніку гаспадарка набыла новы статус.

Адпаведна патрэбна прызначыць новага кіраўніка. У выніку намеснік старшыні райвыканкама Яўген Семянковіч прадстаўляе новага дырэктара гаспадаркі — начальніка гэтага ж упраўлення, у складзе якога — 46 працаўнікоў. Заўважце, а не спадара Костусева, пад кіраўніцтвам якога ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы Шклоўскага раёна працавала звыш пяцісот чалавек. Яму прапанавалі сціплую пасаду — галоўнага механіка. Супрацоўнік ЖКГ напісаў ліст у райвыканкам, але гэта не дапамагло. Рыгор Костусеў не вытрымаў.

— Я не мог больш трываць, працаваць у такой атмасферы, — адзначыў былы дырэктар. — Увесь час ціснуць, шукаюць кампрамат, запалохваюць. Я зразумеў, што мяне выціснуць у любым выпадку. А чаму менавіта цяпер, а не зараз.

— Таму што выбары скончыліся, улады цяпер адчуваюць сябе больш упэўнена, чым зараз.

Рыгор Костусеў шукае працу. Яго лёс хутчэй не выключэнне, а тыповая прыкмета нашага часу. Без працы апынуліся дзесяткі і сотні нашых суайчыннікаў, былых незалежных назіральнікаў, актывістаў ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты. Відаць, гэта не апошнія ахвяры дзяржаўнай машыны. Яны яшчэ будуць.

Але наўрад ці гэтыя меры дапамогуць уладам захаваць уладу. Хутчэй, вырасце колькасць незадаволеных, апазіцыйных людзей. Ды актыўнасці ў іх прыбавіцца.

# Палітычны прытулак

**Пасля разгляду скаргі прадпрымальніка Аляксандра Страха да адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва ён зразумеў, што не зможа зарэгістраваць новую дэмакратычную газету.**

Ён даў газеце назву, пад якой яна калісьці выходзіла ў 1991—1995 гадах. Тады яна называлася "Ратуша" і заваявала шырокае кола прыхільнікаў. У лепшыя часы яна дасягала накладу 20 тысяч асобнікаў.

Не, прадпрымальнік не хацеў скласці канкурэнцыю мясцовым незалежным выданням, газетам "Дэ-факта", "Тыднёвік магілёўскі". Ён лічыць, што выхад "Ратушы" дазволіць умацаваць уплыў незалежнай прэсы на газетным рынку Магілёва, бо гораду вобласці патрэбна больш такіх газет каб дапамагчы развіваць дэмакратыю ў Беларусі.

Аляксандр Страх сабраў усе неабходныя дакументы для рэгістрацыі газеты, за выключэннем аднаго, на якім пагарэла не адна незалежная газета. Для рэгістрацыі выдання патрэбна накіраваць у органы ўлады даведку пра наяўнасць юрыдычнага адраса выдання. Гэтую паперу заснавальнік газеты так і не атрымаў.

Адміністрацыя Кастрычніцкага раёна, на тэрыторыі якога пражывае магіляўчанін Страх, адмовілася выдаць яму даведку пра наяўнасць у газеты юрыдычнага адраса.

Кіраўнікі раённай вертыкалі спасылаліся на тое, што ў якасці юрыдычнага адраса немагчыма выкарыстаць жылую кватэру Страха. Прычым адказ далі не праз месяц, як патрэбна па законе, а праз 50 дзён.

На што заснавальнік выдання заявіў, што ён не з'яўляецца юрыдычнай асобай, таму як індывідуальны прадпрымальнік мае права прыпісаць "Ратушу" ў сябе на кватэры. Пасля гэтага прайшло два суды, апошні — у сярэдзіне лістапада. Заснавальнік выдання спрабаваў праз суд абавязаць раённую адміністрацыю выдаць даведку пра юрыдычны адрас за маральныя страты кампенсаваць яму 10 мільёнаў беларускіх рублёў.

Па-першае, растлумачыў ён, на разгляд звароту даецца адзін месяц, а чыноўнікі даслалі яму ліст амаль праз два месяцы. Па-другое, яны даслалі няправільны адказ, тым самым нанеслі яму маральную шкоду.

Суддзя Кастрычніцкага раёна Магілёва заявіла, што такі іск не адносіцца да яе кампетэнцыі, таму яна вымушана накіраваць справу ў Гаспадарчы суд. Пасля яго рашэння, магчыма, суд разгледзіць патрабаванне пра кампенсацыю маральнай шкоды.

Гэта не першая непрыемнасць у жыцці дарослага чалавека. Штрафы, затрыманні, суды. Таму ён прыняў для сябе рашэнне — эміграцыя. Не паспелі сціхнуць размовы вакол эміграцыі ў Германію вядомага магілёўскага радыёжурналіста Уладзіміра Лапцэвіча, як яго прыклад пераняў прадпрымальнік Аляксандр Страх. Прычына гэтага ўчынку, якую яны назвалі, адна і тая ж — невыкананне іх правоў.

Уладзімір Лапцэвіч нават прасіў еўрапейскія праваабарончыя арганізацыі, каб тыя праінфармавалі свае ўрады пра невыкананне Рэспублікай Беларусь шэрагу міжнародных прававых актаў. Зрэшты, сярод нас нямала людзей, чые правы парушыла наша ўлада. Штрафамі, затрыманнямі, звальненнямі з працы, пагрозамі. Але кожны выбірае свой лёс. Адны з'язджаюць, другія застаюцца і змагаюцца за жыццё, свабоду.

**Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ.**

ДНЕВНИК ПОЛИТАРЕСТАНТА

# Свитер вместо брюк

*(Продолжение. Начало цикла 25 июля 2001 года.)*

**Валерий ЩУКИН, правозащитник, БХК**

### Вторник, 14 августа, 64-й день

В шесть утра раздались удары дубинки в дверь и вопль тюремщика: "Подъем!". Моя просьба не грохотать и не орать — встречена в штыки. "Такое указание", — был ответ.

Указание выполнять, конечно, надо. Только вот кто бы мне объяснил, зачем оно. Понятно, можно сделать замечание, когда в какой-либо камере вовремя не легли или не встали. Но в 18-й подъем-отбой производят без напоминаний. Тогда для чего или для кого надзиратель дерет глотку?

45 секунд на подъем — это армейский норматив. В войсках требование такое понятно: для солдата каждая секунда задержки может стоить жизни. И не только ему лично. А куда торопиться осужденному? В шесть часов обязан вставать только дежурный по камере, потому как у него есть обязанности по выносу мусора, получению хлеба, сахара, завтрака, уборки камеры и т.д. А остальных зачем гнать в три шеи?

Пользы от утренних и вечерних воплей надзирателей никакой, наоборот, крики вызывают у осужденных раздражение. Все, что на мой взгляд, надо делать надзирателю, так это молча щелкнуть выключателем: в 10 вечера освещение выключить, а в 6 утра включить.

Больше пользы было бы от вытряхивания постельных принадлежностей, хотя бы раз в неделю. Но за семь недель пребывания в Жодино ни матрас, ни одеяло ни разу не вытряхивались.

* * *

Четвертый день нет радио и сахара. Более того, начались "перловые дни": на завтрак — перловая каша, на обед — перловый суп, на ужин — перловая каша...

Похоже, в Жодинском СИЗО нет денег на картошку и капусту.

* * *

Сегодня — кассационный суд по "Маршу Свободы". Письменного ответа на свою просьбу отпустить меня на суд от администрации СИЗО я так и не получил.

А пока "суд да дело", воспитатель вызвал меня расписаться под третьим выговором "за бороду". Однако, когда я изъявил желание написать под выговором свое несогласие, поставить подпись не дал, сказав, что проконсультируется с начальником СИЗО.

* * *

Наконец-то в туалете стало цивилизованнее. Вчера дали молоток, и после нескольких ударов дверь сантехнической кабины стала удерживаться в закрытом состоянии.

Для решения столь пустячного вопроса арестному дому потребовалось 47 дней.

### Среда, 15 августа, 65-й день

Пятый день нет радио и сахара.

После обеда вроде бы включили, но, чтобы расслышать, пришлось стоять на унитазе.

### Четверг, 16 августа, 66-й день

Корпусной написал рапорт на молодого сокамерника о невыполнении последним указания по уборке мусора. Наглядный пример жодинского беспредела. Парень, как говорится, тише воды, ниже травы. Вчера на вечерней проверке заступающий дежурный потребовал от него поднять с пола бумажку. Александр (так зовут сокамерника) недоуменно осмотрелся, однако какого-либо мусора не увидел. Кстати, в подготовке к проверке участвует весь личный состав 18-й камеры, а не только дежурный. Отсутствие бумажек и прочих соринок на полу контролировали все восемь глаз.

Бумажку мы действительно не заметили. Да и как заметить на фоне мозаичного пола с беспорядочными белыми вкрапинами бумажку размером с трехкопеечную монету.

Злого умысла с нашей стороны не было и в помине. Тем не менее дежурного обвинили в злостном неповиновении со всеми вытекающими для молодого сокамерника последствиями по УДО (условно-досрочному освобождению).

* * *

Сегодня магазинный день. Приобрел кофе, сахар, минералку. Оказывается, из всех зеков ее потребляю только я.

Между прочим, из четверых обитателей 18-й камеры деньги на счету опять-таки только у меня, остальным прислать некому. Нет, они не одни-одинешеньки на белом свете, но...

### Суббота, 18 августа, 68-й день

Наконец-то дали сахар!

Первый раз за 52 дня пребывания в Жодинском СИЗО услышал утренние новости ("Радыёфакт").

Надзиратель пытался днем выключить в камере электрическое освещение. Поднял шум: не могу в темноте работать. Подействовало: свет включили.

Рубашек и нижнего белья взял с собой в достаточном количестве, а вот брюки только одни, да и те — на мне. В конце концов пришлось их постирать. Но на проверку ведь в трусах не станешь. Однако выход нашел. Вместо брюк натянул на ноги... свитер. Камера от хохота за животы хваталась, а дежурный по корпусу при проверке и внимания не обратил.

*(Продолжение следует.)*

## Жених-неудачник бросился под поезд

В деревне Дричин Пуховичского района жил один паренек. И надо же было ему влюбиться в свою молодую односельчанку.

Повстречавшись несколько месяцев, 25-летний ухажер наконец решился на ответственный шаг. Вечером он пришел к ней домой с предложением руки и сердца. Оказалось, что у девушки в тюрьме есть муж, и предложение жениха отклоняется.

Тогда экс-жених хватается за нож и наносит привередливой невесте шесть-семь ножевых ударов в грудь и спину. Заметим, все это он проделывает, будучи совершенно трезвым. Затем, думая, что убил, хватается за голову и убегает прочь.

Оседлав свой велосипед, начинает искать смерть. Выруливает под колеса иномарки — неудача. Тогда он прямиком направляется к железной дороге, где бросается под колеса проходящего локомотива.

Итог трагичен. Шпалы дистанции Новое Село—Дричин забрызганы кровью.

Девушка чудом уцелела. Сейчас она проходит курс лечения в городской больнице. Ей очень жаль, что все так случилось.

**Евгений НАУМЧИК, студент-журналист.**

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## Пачакай, матуля...

Гэтым летам у Мінску ў падземным пераходзе ля чыгуначнага вакзала звярнуў увагу на здаровага на выгляд мужыка гадоў пад сорак, які трымаў у руцэ капялюш і сустракаў вачыма прахожых.

Я адышоў крокі на тры і спыніўся, назіраючы за ім. Мне было цікава: як часта ў ягоны капялюш кладуць грошы. Не часта, але той-сёй прыпыняўся ля жабрака.

Вось спынілася бабулька, і я пачуў яе голас:

— Малады, здаровы, табе працаваць трэба... Мне на хлеб не хапае, але саромеюся прасіць...

Яна пайшла далей, а мужчына з капелюшом раптам сарваўся з месца і кінуўся за бабулькай. Спыніў яе, дакрануўшыся да пляча і, кладучы ёй у далонь грошы, сказаў:

— Бяры, матуля, на хлеб, а на гарэлку я да вечара назбіраю...

Відаць, сэрца яшчэ не ачарсцвела.

## Яна мяне перамагла

Раз на тыдзень на сваім "Запарожцы", адзін ці з жонкай, накіроўваюся ў суседнюю вёску за малаком да гаспадыні, з якой заўсёды прыемна сустрэцца. Разумная, увішная, нягледзячы на ўзрост і хваробы. Былая настаўніца, добра ведае вясковае жыццё, чытае "Народную волю".

Едучы да яе, вязу хлеб і батоны, каб жанчыне хапіла да наступнага майго прыезду. Бо тое, што ім прывозяць два ці тры разы на тыдзень, есці не заўсёды можна.

Апошнім разам прыязджаю — яна ў хаце адна, старога няма. Сядзім, навінамі абменьваемся. Раптам адчыняюцца дзверы. Упёршыся рукамі ў шулы, каб не зваліцца, з сенцаў спрабуе ўвайсці ў хату гаспадар. Убачыў мяне і, ледзь не плачучы, кажа:

— Цяпер канец... яна мяне перамагла!

— Хто — "яна"? — спытаў я.

— Ды гарэлка, каб жа ёй...

Каб жа — аднаго яго. І не дзіва: у любой вясковай краме не заўсёды знойдзеш хлеб, а гарэлку — дык заўсёды...

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ.**
Слаўгарад.

